Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск




# Рэгіянальная газета

2 красавіка 2004 года

№ 14 (467)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёну



### Бярозавік ідзе

МАЛАДЗЕЧНА. Пачаў нарыхтоўваць бярозавы сок Маладзечанскі лясгас. У панядзелак зрабілі першую пастаўку (18 тон) на Маладзечанскі харчкамбінат. Усяго сёлета запланавана нарыхтаваць 100 тон соку.

**Святлана ЦІШКО.**

### Згарэў дашчэнту

ВІЛЕЙКА. У аўторак у Мішутах Нарачанскага сельсавета датла згарэў дом. Пажарныя змагаліся з агнём 2,5 гадзіны. Мяркуецца, што гэта падпал. За апошнія 3 месяцы на Вілейшчыне было 19 пажараў, у якіх загінулі 15 чалавек.

**Ірына РАБУШКА.**

### Новыя экспанаты

МЯДЗЕЛ. Драўляныя начоўкі, а таксама калаўроты, вышыванкі, тканыя паясы прывезлі з экспедыцыі па раёне супрацоўнікі музея Народнай славы. Усе гэтыя рэчы ім перадалі жыхары Старых Габаў, Восава, Княгініна, Свіра.

**Марына СЛІЖ.**

### Немцы ў горадзе

ВАЛОЖЫН. Дзевятнаццаць прадстаўнікоў Хрысціянскага саюза маладых людзей Германіі наведалі днямі Вішнеўскую, Падбярэзскую, Дорскую і іншыя школы раёна. Мэта візіту – летняе аздараўленне школьнікаў раёна. У Германію на адпачынак паедуць пяцікласнікі.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Рыба нерастуе

СМАРГОНЬ. Ад 2 красавіка пачынае дзейнічаць забарона на лоўлю рыбы і абмежаванне рыбалоўства, што будзе доўжыцца да 31 мая. Рыбакам у перыяд нерасту дазволена карыстацца толькі адной вудай з адным кручком, альбо спінінгам.

**Марына СЛІЖ.**

### Выстава ў Гальшанах

АШМЯНЫ. У філіяле нацыянальнага мастацкага музея, што ў Гальшанах, наладжана выстава самадзейных мастакоў Ашмяншчыны Сяргея Савасцінкевіча і Пятра Явідовіча.

**Ірына РАБУШКА.**

### Бясплатнае насенне

АСТРАВЕЦ. Раённы аддзел сацыяльнага забеспячэння атрымаў гуманітарную дапамогу ад міжнароднай дабрачыннай арганізацыі «Ад сэрца» — насенне агуркоў, капусты, буракоў, кабачкоў, морквы, гарбузоў. Дапамогу перадалі малазабяспечаным, мнагадзетным сем'ям раёна, а таксама састарэлым людзям і інвалідам.

**Святлана ЦІШКО.**

# Вялля паказала характар

**МАЛАДЗЕЧНА. Вілія выйшла з берагоў і затапіла дачныя домікі, якія належаць кааператыву "Будаўнік". 29 сакавіка вада ў асобных месцах даходзіла да вокнаў. Падтопленымі аказаліся і гаспадарчыя пабудовы, пчаліныя вуллі, скляпы.**

"Рэгіянальная газета", абапіраючыся на даныя нацыянальнай метэаралагічнай службы, у нумары за 19 сакавіка абяцала сваім чытачам паводку нязначную. Начальнік Вілейскай гідраметэастанцыі **Вячаслаў Лапко** растлумачыў: "Гідраметэацэнтр не памыліўся. Сёлета паводка была толькі крышку вышэйшая за сярэдні шматгадовы паказчык (каб вызначыць яго, бяруцца назіранні за апошнія 50 гадоў). Пачалася яна 15 сакавіка, а самы пік, як сведчаць назіранні спецыялістаў, прыйшоўся на 23. Магу смела казаць, што падтапленне дачнага пасёлка не вынік паводкі".

Паводле звестак аднаго са спецыялістаў нацыянальнай метэаралагічнай службы, які не пажадаў назвацца, яшчэ 20 сакавіка ўзровень вады ў Віліі быў 72 сантыметры над нулём графіка. У наступныя дні адбывалася паступовае павышэнне, і вада дасягнула адзнакі 240 сантыметраў. Адбылося гэта, па словах той жа крыніцы, хутчэй за ўсё ў выніку скіду вод у Вілію мясцовым прадпрыемствам "Мінскводаканал".

Начальнік вілейскага цэха гідразбудаванняў **Мікалай Шчытнікаў**, якога мы папрасілі пракаментаваць сітуацыю, сказаў:

"Перад вясновай паводкай абслуговая арганізацыя, у гэтым выпадку мы, павінна, гаворачы тэхнічнай мовай, спрацоўваць (спускаць) узровень вады ў вадасховішчы. Рабілі гэта і раней, прычым значна большымі аб'ёмамі. Падтапленняў не было.

Хутчэй за ўсё, сітуацыю справакавалі нейкія іншыя фактары, магчыма, грунтавыя воды. Сёлета, напрыклад, падняўся ў 1,5 раза ўзровень вады ў Нарачы, аварыйная абстаноўка склалася і ў Барысаве, Плешчаніцах.

Ёсць у гэтай сітуацыі яшчэ адно "але". Будаўніцтва дачных домікаў праведзена з парушэннямі. Амаль усе яны размешчаны ў пойме Віліі на ўзроўні ракі. З забудоўшчыкамі кааператыва "Будаўнік" мы не толькі вялі тлумачальныя гутаркі пра небяспечнасць месца, іх нават штрафавалі. Тады перасцярог ніхто не пачуў. Як і сёлета, у момант, калі спецыялісты прадпрыемства папярэджвалі аб паводках.

У дачны пасёлак мы наведваліся не раз. Аднак домікі, калі не лічыць некалькіх чалавек, што жывуць тут пастаянна, былі пустымі".

Паскардзіліся ў гэтай арганізацыі і на адсутнасць інфармацыі аб прытоку ў вадасховішча вод, што раней дасылаў гідраметэацэнтр. Кіруючыся ёй, спецыялісты не толькі рабілі разлікі, але і спакайней сябе адчувалі. Начальнік Вілейскай гідраметэастанцыі Вячаслаў Лапко расказаў, што і сапраўды існавалі такія разлікі. Аднак цяпер іх зрабіць не тое што цяжка, практычна немагчыма. З-за фінансавых цяжкасцяў ліквідаваны два гідраметэаралагічныя пасты на рэках Сэрвач і Ілія. Хаця скарачэнне гэта неапраўданае. Вілейскае вадасховішча – галоўны тэхнічны вадаём Беларусі, і назіраць за яго гідралагічным рэжымам неабходна.

**Марына СЛІЖ.**



Вілія затапіла дзесяткі дамоў, агароды, скляпы. Назіраць стыхію можна і з дарогі Маладзечна–Мядзел у раёне вёскі Ручавыя на Вілейшчыне. На месцы прыдарожнага адпачынку у некалькіх сотнях метраў ад рэчышча Віліі.

Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

(Працяг тэмы на 4-й старонцы.)

### Выстава малочнікаў

Маладзечна сабрала малочнікаў і масласыробаў з усёй вобласці. Чым можа пахваліцца наш рэгіён?



3-я старонка

### Нашыя страхі

Ігар Кіцікаў вядзе свой чарговы адкрыты ўрок. Што такое наш страх і ці варта баяцца?



5-я старонка

### Як знайсці работу?

Каго бяруць на работу? Каму ўладкавацца на працу цяжка? Матэрыял Ірыны Лугіной са Смаргоні.



7-я старонка

■ ВЫТВОРЧАСЦЬ

# Выстава малочнікаў

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулую пятніцу ААТ "Маладзечанскі гарадскі малочны завод" упершыню прымаў гасцей з 7 роднасных прадпрыемстваў вобласці. Тут прайшла выстава-дэгустацыя прадукцыі, на якую былі запрошаны прадстаўнікі гандлёвых пунктаў усіх форм уласнасці горада і рэгіёну. Сваю прадукцыю на ёй прадстаўлялі перапрацоўчыя прадпрыемствы малочнай прамысловасці Слуцка, Вілейкі, Валожына, Нарачы, Салігорска, Капыля, Барысава.**



Больш за 70 найменняў прадукцыі выпускае Вілейскі гармалзавод.

Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

"Для прадпрыемстваў гэта шанс заявіць аб сабе, пазнаёміць прадстаўнікоў ад гандлю, якія бліжэй за ўсё стаяць да пакупнікоў, са сваёй прадукцыяй, пашырыць рынкі збыту, — сказала намеснік начальніка аддзела маркетынгу дзяржаўнай установы (ДУ) «Мінаблгандальпрадпрам» **Ірына Пашкевіч**.

Сягоння адзін толькі Маладзечанскі гармалзавод выпускае 70 відаў прадукцыі, штомесяц папаўняючы свой асартымент. На прылаўках магазінаў з'явіліся з пачатку года малако з лактулозай, напітак "Кактэйль сонечны фруктовы", тварожны дэсерт "Загадка", напітак "Сталічны" на бефідабактэрыях, які аднаўляе мікрафлору арганізма, кефір ёдаваны. "У той жа час, — расказвае тэхнолаг завода **Ніна Стасяловіч**, — яны не змаглі знайсці свайго пакупніка. Мы не маем грошай на рэкламу, а прадстаўнікі ад гандлю, пакупнікі, у сваю чаргу, магчымасці атрымаць інфармацыю аб той альбо іншай навінцы, яе смакавых і карысных якасцях".

Улічыўшы гэтыя абставіны, кіраўніцтва «Мінаблгандальпрадпрама» і вырашыла наладзіць выставу-дэгустацыю. Асобныя таваразнаўцы прызналіся, што зрабілі падчас яе сапраўдныя адкрыцці. Пасмакаваўшы асобныя гатункі сыроў Слуцкага сыраробнага камбіната, пераканаліся, што яны нікольні не горшыя за нямецкія. Навіной стала і тое, што прадукцыя Вілейскага гармалзавода, з якім мала супрацоўнічалі, некалькі разоў запар займала прызавыя месцы ў намінацыях конкурсаў нацыянальнага ўзроўню: "Малочныя дэсерты" і "Прадукты харчавання", а ўсё той жа Слуцкі сыраробны камбінат выпускае амаль два дзесяткі відаў марожанага.

Падчас мерапрыемства гандлёвыя работнікі атрымалі прайс-лісты заводаў і камбінатаў, пазнаёміліся з начальнікамі вытворчасці, тэхнолагамі, якія іх прадстаўлялі, заключылі папярэднія дагаворы на пастаўку малочных прадуктаў у гарадскую гандлёвую сетку, агаварылі ўмовы супрацоўніцтва.

"Спадзяёмся,— зазначыла Ірына Пашкевіч, — што цяпер у магазінах горада і рэгіёну з'явіцца больш малочнай прадукцыі мясцовай вытворчасці і што за шклянымі вітрынамі халадзільнікаў побач з замежнымі ёгуртамі знойдзецца месца тым, што сыходзяць з канвеераў Маладзечанскага, Вілейскага гармалзаводаў, а таксама шматлікім тварожным пастам, сырам, сыркам, кефірам, вітамінізаванаму малаку".

Знаходзіць той, хто шукае, – гаворыць народная мудрасць. У сённяшніх умовах прадпрыемствам малочнай прамысловасці даводзіцца шукаць і знаходзіць адначасова. Новыя тэхналогіі, віды прадукцыі, якія б па сваіх смакавых якасцях і знешнім выглядзе не ўступалі канкурэнтам і задавальнялі пакупнікоў, сваё месца на рынку збыту.

**Марына СЛІЖ.**

# Курсы валют НБ РБ

| | 25.3 руб. | 1.4 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2151,00 | 2150,00 |
| Еўра | 2644,55 | 2629,77 |
| Злоты | 562,13 | 556,06 |
| Літ | 765,83 | 761,93 |
| Расійскі рубель | 75,51 | 75,40 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2155/2170 | 2155/2170 |

Маладзечна

# Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 24.3 | 31.4 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13830 | 13830 |
| Сасіскі, 1 кг | 5020 | 5020 |
| Селядзец, 1 кг | 2700 | 2700 |
| Рыс, 0,9 кг | 1000 | 1000 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1500 | 1500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1550 | 1510 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 530 | 530 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2300 | 2300 |
| Шпроты, бляшанка 160 г. | 1100 | 1150 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 900 | 900 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1100 | 1150 |
| Капуста, 1 кг | 300 | 200 |
| Морква, 1 кг | 380 | 400 |
| Лімоны, 1 кг | 2800 | 3000 |
| Апельсіны, 1 кг | 2200 | 2300 |
| Яблыкі, 1 кг | 980 | 1050 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1,5 л | 900 | 600 |
| Смятана, 1 л | 2700 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1900 | 2000 |
| Сала, 1 кг | 3500 | 2800 |
| Бульба, 1 вядро | 3000 | 3000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1100 | 1100 |

# Гандаль па новых правілах

**Новыя "Правілы гандлю на рынках Рэспублікі Беларусь" пачалі дзейнічаць 24 сакавіка. Выконваючы іх патрабаванні, шмат якія прадаўцы будуць вымушаныя перабрацца ў закрытыя памяшканні: крамы, кіёскі, павільёны.**

Сёлетнія правілы адрозніваюцца ад папярэдніх. Папершае, пашыраны спіс тавараў, гандляваць якімі забаронена. З 24 сакавіка да іх адносяцца адзенне з футра і натуральнай скуры, тэлерадыётавары, аўдыё- і відэакасеты, тэлефонныя апараты. Юрысты Маладзечанскага райспажыўтаварыства **Наталля Посах** і **Таццяна Залеўская** апошні пункт патлумачылі так: паводле правілаў прадавец абавязаны прадэманстраваць пакупніку, як тавар працуе. Падключыць у гандлёвай палатцы тэлефон немагчыма, таму і прадаваць яго нельга. Футра і скура, патлумачыла намеснік начальніка ўпраўлення арганізацыі гандлю і паслуг **Людміла Петракоўская**, псуюцца, калі вісяць на вуліцы і ў дождж, і ў спёку.

З прадуктаў харчавання з адкрытых прылаўкаў забаронена прадаваць цукар (у Маладзечне ім ужо некалькі месяцаў гандлююць магазіны), непастэрызаванае малако, нерасфасаваныя кандытарскія вырабы (напрыклад, пячэнне) і некаторыя іншыя тавары. Дапускаюцца кандытарскія вырабы, фасаваныя іх вытворцам, або прадпрыемствам ці індывідуальным прадпрымальнікам, якія маюць сертыфікат на фасоўку тавару. Гэтыя захады, патлумачылі юрысты райспажыўтаварыства, прынятыя дзеля абароны інтарэсаў спажыўца і гарантуюць належную якасць тавару: пакупнік можа быць упэўнены, што тое ж пячэнне – без смецця, не вільготнае, не насычанае пахамі іншых прадуктаў. «Магчыма, у гэтым ёсць пэўны недахоп, – сказала Таццяна Залеўская. – Пакупнік павінен будзе набываць такі аб'ём кандытарскага вырабу, які яму прапануюць. Або ісці ў магазін, дзе гандлёвая нацэнка вышэйшая».

Паводле новых правілаў кожны прадавец павінен мець бэдж (пластыкавая шыльдачка), на якім указана прозвішча, імя і імя па бацьку. З кожным прадаўцом адміністрацыя рынку абавязаная заключыць дагавор, аднаразовы або на пэўны тэрмін. У сувязі з гэтым узрасла нагрузка на кантралёраў, што працуюць на рынку: цяпер яны не толькі выпісваюць білет, але і складаюць дагаворы, правяраюць наяўнасць неабходных дакументаў (флюараграмы, пашпарта або ліцэнзіі). Да таго ж узнікаюць праблемы з фізічнымі асобамі, асабліва пажылога ўзросту, якія гандлююць, напрыклад, свойскім тварагом або кропам: яны адмаўляюцца падпісваць дагавор, не даюць пашпарт. Хаця кошт гандлёвага месца, запэўніла адміністрацыя рынку, ад гэтага не мяняецца.

Вялікія змены адбыліся з ліцэнзаваннем. Раней прадпрымальнік плаціў за ліцэнзію на 5 гадоў каля 15 еўра. Цяпер яна каштуе 90 еўра, і 45 еўра давядзецца заплаціць за яе змяненне (калі прадпрымальнік хоча пашырыць асартымент тавараў або змяніць месца гандлю). Розніца адчувальная. Аднак юрысты райспажыўтаварыства заўважылі: «Прадпрымальніку трэба вызначыцца з асартыментам і месцам. У такім разе гэта і не вельмі дорага».

**Святлана ЦІШКО.**

## Пра бакалею

**МАЛАДЗЕЧНА. Прадпрымальнікі і адміністрацыя рынку райспажыўтаварыства, якія канфліктавалі некалькі тыдняў, спрабуюць прыйсці да згоды.**

Адміністрацыя рынку запланавала пабудаваць бакалейны павільён на 42 гандлёвыя месцы. 40% грошай на яго пабудову выдзяляе райспажыўтаварыства. Астатнія рынак хацеў пазычыць у прадпрымальнікаў, якія будуць у ім гандляваць бакалеяй, і некалькі разоў прапаноўваў афарміць дагавор пазыкі (прадпрымальнік дае грошы, а пасля рынак іх вяртае, ствараючы льготныя ўмовы пры аплаце арэнды). Адно гандлёвае месца ў новым павільёне будзе каштаваць каля 5 мільёнаў. Прадпрымальнікі палічылі, што гэта дорага, і ад прапановы ўдзельнічаць у фінансаванні будаўніцтва адмовіліся. Адміністрацыя рынку не заключыла з імі дагаворы на арэнду гандлёвых месцаў на красавік.

Канфлікт нарастаў, і 29 сакавіка прадпрымальнікі сустрэліся з дырэктарам рынку **Ганнай Сіняўскай** і прадстаўнікамі райспажыўтаварыства. Прамовы прадстаўнікоў абодвух бакоў былі эмацыйныя. «Гэта розуму недаступная сума!» — сказала адна з прадпрымальнікаў пра кошт будаўніцтва. «Вы выбралі самых дарагіх праектантаў і будаўнікоў», — падтрымалі яе іншыя. Некаторыя з прадпрымальнікаў увогуле не пагадзіліся з ідэяй будаўніцтва павільёна. Ганна Сіняўская адзначыла, што рынак не можа заставацца ранейшым, зацверджаны план яго рэканструкцыі. А за ўсе парушэнні правілаў гандлю, па яе словах, адміністрацыя таксама нясе адказнасць.

У выніку перамоваў абодва бакі пайшлі на кампраміс. Ініцыятыўная група прадпрымальнікаў праверыць кошт праекта і прапануе іншага падрадчыка. Адміністрацыя рынку дазволіла «бакалейшчыкам» гандляваць без дагавора пазыкі да 1 мая.

**Святлана ЦІШКО.**

■ КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# «Труны» для кветак падарожнічаюць па горадзе

**МАЛАДЗЕЧНА. Напачатку тыдня ўбралі бетонныя вазоны на вуліцах, што прылягаюць да калгаснага рынку, якія маладзечанцы празвалі "трунамі". Іх усталявалі мінулым летам. Па словах намесніка старшыні гарвыканкама па будаўніцтве Мікалая Воранава, вазоны не адпавядаюць патрабаванням да нормаў праезнай часткі.**

Летась, як сказала бухгалтар УП "Камунальнік" **Надзея Цімошка**, камунальшчыкі закупілі 192 адзінкі больш чым за 10 мільёнаў рублёў на мясцовых заводах жалезабетонных вырабаў.

Паводле слоў галоўнага спецыяліста аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі гарвыканкама **Наталлі Ярошовай**, вазоны ўстанавілі ў мэтах удасканалення арганізацыі руху і ўпарадкавання стаянкі аўтатранспартных сродкаў, а таксама для навядзення належнага грамадскага парадку на дваровых тэрыторыях, што прылягаюць да рынку. Аб гэтым сведчыць распараджэнне №195 гарвыканкама ад 16 чэрвеня 2003 года. Летась зацвердзілі план мерапрыемстваў. Дзяржаўтаінспекцыя займалася арганізацыяй руху. Паставілі новыя дарожныя знакі. Зрабілі асобную аўтастаянку каля ветэрынарна-санітарнай экспертызы рынку. Добраўпарадкавалі дваровыя тэрыторыі па вуліцах Талстога, 1, 3, 5, 8, 10, Хмяльніцкага, 1, 3, 3 б, 5, 6, 6 г, 7. Адзіныя, у каго з'явіліся нязручнасці ад гэтых зменаў, — вадзіцелі, якія прыязджаюць на рынак. Раней яны пакідалі машыны ў дварах вышэйзгаданых дамоў, зразумела, бясплатна. Але трэба было ствараць умовы жыхарам, што неаднойчы скардзіліся ў гарвыканкам і вышэйшыя органы на вадзіцеляў, якія арганізоўваюць у дварах стаянкі. Неаднойчы маладзечанцы і прыезджыя бачылі: аўтамабілісты раз-пораз уразаліся ў вазоны, разбіваючы ці пераварочваючы іх, шкодзілі машыны. Урэшце 10 "трунаў" не далічыліся. Начальнік дзяржаўтаінспекцыі (ДАІ) **Уладзімір Балкоўскі** зазначыў, што ніводнай аварыі з-за вазонаў не зафіксавана. І дадаў:

— Няма таго эфекту – выключыць доступ транспарту тых, хто прыязджае на рынак, у бліжэйшыя дваровыя тэрыторыі, — якога хацелі дабіцца. Таму ДАІ сумесна з гарадскімі ўладамі вырашылі ўбраць вазоны. Аднак патрабаванні да праезнай часткі яны не парушаюць.

Ідуць перамены. Бетоннымі ёмістасцямі, як зазначыў начальнік вытворча-тэхнічнага аддзела УП "Камунальнік" **Мікалай Чалей**, добраўпарадкавалі двары ў раёне гаргазу. А каля рынку замест бетонных "трунаў" для кветак, магчыма, будзе платная стаянка.

**Ірына РАБУШКА.**

■ АДКРЫТЫ ЎРОК

# Нашыя страхі

**Неяк сваячка маёй жонкі пазваніла да нас ноччу, каб спытаць нумар хуткай дапамогі. Спужаўшыся за жыццё сваёй маці, яна проста забыла яго. Кожны з нас знаёмы са страхам, самай згубнай для чалавека эмоцыяй. У кожнага рана ці позна ўзнікалі тыя ці іншыя страхі. Галоўным чынам з-за таго, што чалавек здольны ў той ці іншай меры зазірнуць у будучыню, а страх – гэта заўсёды прадугадванне пакутаў і болю.**

Калі лічыць, што страх холаду прымушае нас будаваць дом, страх голаду – зарабляць грошы, а страх адзіноты – ствараць сям'ю, можна сказаць, што страхі кіруюць нашым жыццём. Каб выявіць, якія страхі пануюць у нашым жыцці, я спытаў сваіх вучняў, чаго яны баяцца. Вось іх адказы: 12 – цемнаты, 11 – змеяў, 11 – страціць блізкіх, 9 – вышыні, 8 – адзіноты, 6 – смерці, 5 – экзамена, 4 – праследавання, 3 – вады, 2 – вайны. Па адным адказе – старасці, згубіць здароўе, раджаць дзяцей, зубнога доктара, зацяжарыць, СНІДу.



Чорны кот для прымхлівага чалавека – сапраўдная прычына сапраўднага страху. Калі ж вы не верыце ў прыкметы, то чорны кот не будзе выклікаць жахлівых асацыяцый.

З архіва "РГ".

Цікава, што амерыканскі вучоны-біёлаг, прафесар астраноміі і касмічных навук Карнельскага універсітэта тлумачыць, што страх падзення звязаны з тым, што нашы продкіпрыматы жылі на дрэвах. Гэта значыць, калі вы жывяце на дрэве, дык самы просты спосаб загінуць – гэта ўпасці. Боязь змяі – гэта даўняя варожасць паміж рэптыліямі і млекакормячымі. Гэта так сказаць атэістычны падыход. А вось – рэлігійны. Змяя – гэта змей-спакуснік Евы, а страх падзення – гэта страх грэхападзення, бо з пекла дарогі назад няма.

А вось некаторыя, як мне падалося, цікавыя страхі, апісаныя маімі вучнямі. "Мой страх – гэта боязь цемнаты, але не звычайнай, а цёмнай шчыліны паміж прыступкамі, ці цемры з-пад канапы." " Самы вялікі страх – гэта невядомасць. Што там будзе ў будучыні? Як мы будзем жыць?" "Я баюся канца свету."




Вынікі апытання навучэнцаў Вілейскага ПТВ–200

Страх – гэта толькі прадукт нашага ўяўлення. Смела зазірніце яму ў вочы, распазнайце яго, і тады высветліцца, што вы з ім не адно і тое самае. Паглядзеўшы на вашыя страхі, як на кадры ў кіно, што хутка мільгаюць і тут жа знікаюць, вы ўбачыце, што на самой справе іх няма. Страх прыйдзе і знікне, калі вы самі не будзеце яго настойліва затрымліваць.

Лепшы сродак ад страху – любоў, дабрыня, згода. Калі вы даруеце, то і вам даруюць, вы атрымаеце надзею на згоду, і страх знікне.

І галоўнае: перастаньце раскручваць у галаве падрабязнасці вашага сёняшняга быцця, перастаньце складаць сцэнарый нярадаснага заўтра, паспрабуйце забыць пра непрыемнасці. Згадзіцеся, што вам не горш, чым іншым. Ёсць дах над галавой, каханыя і блізкія, надзея на будучыню, гароднiна, садавіна, некалькі "баксаў" у заначцы, рукі,ногі, галава. А гэта не так ужо і мала.



Адкрыты ўрок вядзе
Ігар КІЦІКАЎ,
kitikoff@tut.by.

**Працягваем знаёміць нашых чытачоў з фрагментамі кнігі ўраджэнак Будслава Анелі Катковіч і Вэранікі Катковіч-Клентак «Успаміны». Нядаўна ў Польшчы выйшаў пераклад на польскую мову гэтай кнігі, які завецца «Ад Будслава да ГУЛАГа». Захоўваем правапіс арыгіналу. У гэтым нумары сваімі ўспамінамі дзеліцца Анеля Катковіч. Успаміны Вэранікі Катковіч-Клентак будуць друкавацца пасля ўспамінаў Анелі Катковіч. Поўны тэкст кнігі можна знайсці на сайце http://kamunikat.net.iig.pl.**




# Ад Будслава да ГУЛАГа

Ехалі памалу, часта затрымліваліся. Наканец затрымаўся цягнік на даўжэйшы час. Аказалася, перад намі партызаны ўзарвалі чыгуначны мост. Трэба было хутка наладзіць. Палажылі пуці й асцярожна пераехалі раку й мінулі небясьпеку. Пераяжджаючы праз Баранавічы, бачылі мы, як гарэў увесь горад. Дзесьці за Лідай наехаў наш цягнік на міну. Дзесяць пярэдніх вагонаў перавярнуліся. Было многа забітых і раненых. Від страшны. Да Ліды мы з Вэрай, доктаркай Надзеяй Абрамавай, Зосяй Аляхновіч і іншымі сяброўкамі беларускай моладзі ехалі ў трэцім вагоне ад лякаматыва. Пасьля Ліды лякаматыў былі пераставілі, й мы такім чынам апынуліся ззаду, таму мы й ацалелі. Падабраўшы раненых, паехалі далей. На аднэй станцыі, калі цягнік затрымаўся й раптам ізноў крануўся, пачаў даганяць яго наш малады юнак, які выйшаў быў на хвіліну зь цягніка. Няўдала ўскочыў і папаў пад колы. Адрэзала яму абедзьве нагі.

Ня помню, на якой станцыі нас разьдзялілі, адна часьць паехала на Кёнігсбэрг (Калінінград), а другая апынулася на італьянскай мяжы ў Альпах.

І так Вэра й я, разам з доктаркай Абрамавай, Ганьком і іншымі кіраўнікамі беларускай моладзі трапілі ў Альпы над рэчку Мальту. Такія высокія горы бачыла я першы раз у сваім жыцьці. Здавалася, што знайшліся мы ў нейкай глыбокай яме, зь якой няма выхаду. Дзе ні кінь вокам, перад намі стаяць аграмадныя каменныя сьцены. Крыху лепш разгледзеўшыся, відавочна была краса краявіду. Ня цешыла нас нічога, бо ня ведалі, які нас лёс чакае на чужыне. Пераяжджаючы празь Вену, спаткала я двух жаўнераў зь беларускага войска. Ад іх даведалася, што Франак паехаў у Італію. Далі мне ягоны адрас. Брат быў у горадзе Удзінэ.

## У Нямеччыне

У Альпах прабылі мы два тыдні. Адтуль разьехаліся ўсе ў розныя бакі Нямеччыны й Чэхаславаччыны. Рассталася я з Вэрай. Яе направілі ў лагер, дзе знаходзіліся вывезеныя зь Беларусі на работу дзеці ўзросту 10-14 гадоў. Затрымалася пры Штабе Беларускай Моладзі ў Тропаў (Чэхаславаччына). Там адведаў мяне некалькі разоў доктар Рыхэль, якога ўлады знаходзіліся ў Рацібору, вельмі блізка ад Тропаў. Ад Вэры атрымлівала я многа лістоў, у якіх яна апісвала мне пра дзяцей з лагера. Жыла яна для іх і ўсё, што магла, рабіла, каб аблегчыць іх долю. Любіла іх, а яны за ёй прападалі.

У Тропаў работы мы многа ня мелі, папросту абіваліся. Часам хадзілі памагаць на полі чэхам.

Хочацца тут успомніць пра доктара Маха, з якім я пазнаёмілася была ў Менску. Вось ён пачаў пісаць ліст за лістом просячы мяне, каб я адведала ў Тропаў яго крэўных. Адрас мой атрымаў ён ад доктара Рыхэля. Ня ведаю чаму, просьбы яго я не спаўняла й да яго крэўных ня йшла. Калі наканец я адведала іх, яны прынялі мяне як вялікага дарагога госьця. Шкадавала, што раней зь імі не пазнаёмілася. Хутка пасьля гэтага пачулі мы, што пад Тропаў прыбліжаецца савецкая армія й мусілі гэты горад пакінуць. Часьць рэчаў аддалі на багаж, а частку з сабой узялі. Рэчаў адданых на багаж ня ўбачылі ніколі. Згінулі разам усе мае здымкі й з часоў гімназічных і студэнцкіх і пазьнейшыя. Эвакуавалі нас з Тропаў у Бэрлін, хаця ня ўсіх. Доктарка Абрамава зь сям'ёй выехала ў іншы бок. Ня ведаю, дзе падзеліся Міхася Т. і Зося Ал.

Знайшлася я бяз працы. Нямецкае кіраўніцтва моладзі, да якога я зьвярнулася з просьбай, направіла мяне ў Пітніц над морам. Калі я туды прыехала, прыняць мяне не хацелі. Тут я раскажу пра прыгоду ў дарозе. Разам са мною ў вадным купэ ехала ад Бэрліна немка. За ўсю дарогу я зь ёй разгаварылася й была яна да мяне вельмі сымпатычнай. Пасьля ўвесь дзень разам чакалі ў Ростаку наступнага цягніка. Тут была ў нас перасядка. На станцыі людзей было шмат. Калі прыйшоў наш цягнік, рвануўся тлум народу шукаць сабе месца. Немка, якая са мной ехала, была без багажа, а я вязла з сабою ўсё сваё багацьце. Мела дзьве валізкі й рукзак на плячах. У меншай валізцы былі рэчы лепшыя. Вось немка, бачачы, што мне цяжка, запрапанавала сваю помач. Выхапіла з маіх рук меншую валізку й сумку з дакумэнтамі й грашыма ды хутка кінулася ў людзкі натоўп. Доўгі цягнік напоўніўся людзьмі, а я асталася на пэроне й расплакалася. Раней прабавала бегаць ад вагона да вагона й пытацца, хто ўзяў маю сумку й валізку. Ніхто не адзываўся. Убачыўшы мяне заплаканую, дзяжурныя жанчыны запыталіся, што сталася. На маё шчасьце, цягнік адразу не ад'ехаў, а затрымаўся даўжэй на станцыі. Было крыху часу, каб пайсьці разам зь дзяжурнымі й пашукаць немку з маімі рэчамі. Знайшлі мы яе ў апошнім вагоне, а прайшлі цераз увесь перапоўнены цягнік.

Анеля КАТКОВІЧ.

Працяг будзе.

## Дадатковае тэсціраванне

**Міністр адукацыі Беларусі Аляксандр Радзькоў падпісаў указ «Аб правядзенні цэнтралізаванага тэсціравання ў 2004 годзе».**

Згодна з дакументам, падпісаным 29 сакавіка, акрамя раней зацверджанага пераліку прадметаў, па якіх праводзіцца цэнтралізаванае тэсціраванне на платнай аснове, уводзіцца дадатковае тэсціраванне па рускай і беларускай мовах. Цэнтралізаванае тэсціраванне па рускай мове пройдзе 25 красавіка, па беларускай — 8 мая.

Паводле БелаПАН.

■ АЎТАЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# Fiat 508 – стары знаёмец

Такія аўтамабілі ездзілі па тэрыторыі ўсёй міжваеннай Польшчы. У тым ліку і па дарогах нашага краю – Віленшчыне. Магчыма, у кагосьці засталіся ўспаміны, а ў каго – фотаздымкі з легендай польскага даваеннага аўтабудавання. А можа, у старым хляве ці пуні пыляцца старыя аўтамабільныя запчасткі ад рарытэта?

Польскую мадыфікацыю італьянскага Fiat 508 пад назвай Polski FIAT 508 III Junak (польскі Фіят 508 III Юнак) пачалі выпускаць ў 1932 годзе. Пасля перамоў з італьянскім бокам і атрымання адпаведнай ліцэнзіі палякі пачалі выпускаць мадыфікацыю гэтага аўто пад гандлёвай маркай Polski FIAT 508 I. Мантаж праводзіла акцыянерная суполка "Polski Fiat" у Варшаве. Першыя варыянты былі адкрытымі і накіроўваліся ў Войска Польскае. Затым пачалі выпускаць фургоны, прыстасаваныя для вайсковых радыёстанцый.

Вайсковы аўтамабіль ўяўляў сабой канструкцыю з дрэва і сталі (шкілет з дрэва, абцягнуты сталёвай бляхай таўшчынёй 1 мм), з задніміі (або без іх) дзвярыма, з невялікімі бакавымі вокнамі.

Аўтамабіль мадэлі Polski FIAT 508 III Junak адрозніваўся ад вайсковай. Больш раскошным быў кузаў, павялічаная была магутнасць рухавіка з адначасовым захаваннем прынцыповых параметраў. Змянілася каробка перадач і частка рулявога кіравання. Калі ў 1936 годзе пачаўся серыйны выпуск, узмацнілі раму, пярэднюю вось, задні мост, рэсоры, замянілі амартызатары, узмацнілі колы. Аўтамабіль амаль цалкам вырабляўся ў Польшчы. Ва ўмовах падрыхтоўкі краіны да вайны гэта мела вялікае значэнне. У пачатку 1939 года толькі 5% камплектуючых элементаў імпартавалася.

Выпускаліся таксама "напаўгрузавыя варыянты аўтамабіля – пікапы і фургоны.

Колер аўтамабіля выбіраў заказчык: гранатавы, чырвоны, зялёны, бэжавы, але заўсёды ў комплексе з чорнымі балотнікамі. Пікапы фарбаваліся пераважна ў цёмныя колеры. Акрамя войска, аўтамабілі шырока выкарыстоўваліся на поште і ў хуткай дапамозе.

Паводле www.fiat.pl




Fiat 508 – адна з самых папулярных мадэляў перадваеннай Еўропы. Ездзілі такія аўто і па нашым рэгіёне.

Фота з архіва "РГ".

**Некаторыя тэхнічныя дадзеныя аўтамабіля «Polski Fiat 508 III» тыпу пікап**

| | |
|---|---|
| Рухавік | 4–цыліндравы, вадзяное ахаладжэнне, аб'ём 0,995 л. |
| Каробка перадач | 4–ступенчатая. |
| Рэсоры | паўэлентычныя. |
| Амартызатары | гідраўлічныя. |
| Уласная маса | 760 кг. |
| Максімальная хуткасць | 85 км/г. |
| Расход бензіну каля | 8 л/100 км. |

■ НАВІНЫ

## Асцярожна, жабы!

**МІНСК. Сёлета на тэрыторыі Беларусі будзе ўведзены новы дарожны знак — «Сезонныя міграцыі земнаводных». Аб гэтым у інтэрв'ю БелаПАН паведаміў навуковы супрацоўнік Інстытута заалогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Руслан Навіцкі.**

«Мы меркавалі, што знак будзе ўяўляць сабой традыцыйны трохкутнік з выявай жабы, — сказаў вучоны. — Але паколькі згаданы знак не прадугледжаны Венскай канвенцыяй аб дарожных знаках, для вырашэння гэтага пытання ад Беларусі патрабуюцца сродкі і палітычная воля. З-за яе адсутнасці пакуль мяркуецца ўвесці іншы дарожны знак — сінюю прамакутную шыльду, на якой напісана «Увага! Сезонныя міграцыі жаб».

Паводле яго слоў, новы знак будзе ўстанаўлівацца сёлета ў Бярэзінскім біясферным запаведніку падчас рэканструкцыі шашы Мінск — Віцебск.

Прычым, як зазначыў Навіцкі, праект рэканструкцыі гэтай дарогі прадугледжвае пабудову спецыяльных праходаў для жывёл пад трасай у тым месцы, дзе падчас сезонных міграцый земнаводных штогод гіне да 1 тысячы жывёл.

Як паведаміла каардынатар праекта грамадская аб'яднання «Цэнтр гуманітарных ініцыятыў» Вольга Сінкевіч, увядзенне новага знака з'яўляецца часткай праекта «Кампанія па стварэнні ўмоў найбольшага спрыяння міграцыі жывёлам на тэрыторыях, што падлягаюць ахове, у месцах канфлікту з аўтадарогай». Ён рэалізуецца з 2001 года пры фінансавай падтрымцы прадстаўніцтва кампаніі ISAR (ЗША) у Беларусі, якая накіравала на ажыццяўленне згаданага праекта прыкладна 7 тысяч долараў ЗША. У сувязі з тым, што вясной жабы з месцаў спячкі па пастаянных маршрутах мігруюць у звыклыя для размнажэння вадаёмы, да 90 працэнтаў папуляцый земнаводных гінуць пад коламі аўтамабіляў на шматлікіх дарогах. «Вось чаму па працягу трох гадоў наша аб'яднанне прыцягвае студэнтаў-біёлагаў для выратавання жывёл у Белавежскай пушчы, нацыянальным парку «Прыпяцкі» і Бярэзінскім біясферным запаведніку. На маршрутах міграцыі земнаводных уздоўж аўтатрас устанаўліваюцца сеткі, ля якіх збіраюцца жабы. Валанцёры збіраюць іх у вёдры і пераносяць цераз дарогу», — сказала Вольга Сінкевіч.

Апроч таго, паводле яе слоў, у рамках праекта праводзіліся семінары з удзелам прадстаўнікоў міліцыі і розных дарожных ведамстваў.

Зараз экологі вядуць пошук сродкаў для правядзення ацэнкі ўздзеяння аўтатранспартных сродкаў на лакальныя папуляцыі земнаводных у нацыянальным парку «Прыпяцкі» і Бярэзінскім біясферным запаведніку.

Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.



■ КОНКУРС




## Выйграй прыз ад 1-й акумулятарнай

**Конкурс, які "РГ" праводзіць разам з 1-й акумулятарнай кампаніяй, вітае прыхільнікаў аўтамабільнага свету! Жадаем спраўнага акумулятара, масла ў норме, роўнай і сухой дарогі.**

Месяц таму мы прапанавалі з трох варыянтаў адказу выбраць правільны. Пытанне было наступным:

**Як у 1960 годзе, калі пачаўся выпуск "гарбаты "Запарожац", называўся Запарожскі аўтазавод?**
**А) імя Ліхачова,**
**Б) "Спартак",**
**В) "Камунар".**

Правільны адказ – "Камунар". Так адказалі маладзечанцы М.І., Павел і Вадзім Сярпейкі, Аляксандр Паклядок, Ірына Шпілеўская, Тамара Камінская, Анатоль Шпілеўскі, Юры Юхневіч, жыхарка Радашкавічаў Юлія Губіч, Анастасія Рагіня з Вузлы на Мядзельшчыне, Ю.У. Кляпцоў з Астраўца, Насця Крачкоўская з Вілейкі, мінчанін А.Губскі. Жэрабя ўказала на пераможцу гэтага конкурсу – **Вадзіма Сярпейку**, якога запрашаем у рэдакцыю за прызам – каністрай высакаякаснага маторнага масла. Віншуем!

Удзел у конкурсах "Рэгіянальнай газеты" – выдатны шанц асвяжыць свае веды і мець за гэта яшчэ прыз.

### Адкажыце на пытанне

**Створаны ў 1947-50 гадах непадалёк ад чыгуначнай станцыі Жодзіна завод праз некаторы час стаў славутым БелАЗам. Завод стаў спецыялізавацца на выпуску кар'ерных самазвалаў вялікай грузападымальнасці. Вядома, што ў пачатку 90–х гадоў прадпрыемствам кіраваў ураджэнец Вілейскага раёна, які пасля ў Вярхоўным Савеце Беларусі ўваходзіў у камісію па знешнеэканамічных сувязях. Пасля смерці нашага земляка яго іменем у Жодзіне названая вуліца. Як звалі гэтага нашага земляка?**
**А) Валеры Карповіч,**
**Б) Дзмітры Сыракваш,**
**В) Аляксей Субач.**

Выберыце з трох адказаў правільны і дашліце яго да 23 красавіка на паштоўцы на адрас рэдакцыі.

Мікола ГАЙДУК.

■ ЮБІЛЕІ

## WD-40 – 50 год

**Зімой, якая яшчэ нагадвае начнымі халадамі, паўстагоддзя споўнілася любімай многімі аўтамабілістамі "вэдэшцы". Заіржаўленыя замкі, адсырэлыя правады, "прыкарэлыя" балты – паўсюль дапаможа цудабалончык.**

Усё пачыналася ў 1953 годзе ў дробненькай лабараторыі Rocket Chemical ў амерыканскім Сан–Дыега. Гэта кампанія з трох чалавек працавала на касмічную праграму ЗША. У адзін з сонечных дзён дзверы ў лабараторыю адчыніліся, у праёме ўзнікла фігура заснавальніка фірмы Норма Ларсэна: "Хлопцы, ёсць работа. Толькі што гаварыў з ракетчыкамі: у іх Atlas на складзе ржавеюць. Трэба дапамагчы".

Праца закіпела. Некалькі месяцаў хімікі змешвалі і распрацоўвалі розныя саставы. Нарэшце пасля саракавой спробы вадкасць была гатовая. Ахрысцілі яе Water Displacement (WD, "адштурхальнік вады") 40 – па колькасці спробаў. Састаў добра змываў гразь, змазваў і папярэджваў утварэнне ржы. Кампанія Convair, якая па заказе ўраду займалася эксплуатацыяй ракет Atlas, не вырала ў сваё шчасце...




Сродак WD-40 сёння можна знайсці і ў спецыялізаваных аўтамагазінах, і ў гаспадарчых крамах.

Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

Чуткі аб стварэнні універсальнага сродку для змазкі нерасцярогі ад іржы хутка распаўсюдзіліся ў наваколлі. Супрацоўнікі пацыху пачалі выносіць прэпарат – для гаспадаркі. Тады Ларсэн рашыўся на выпуск бытавой версіі. Некалькі гадоў пайшло на працу над аэразольным балончыкам для "вэдэшкі", і ў 1958 годзе вадкасць упершыню з'явілася ў мясцовых крамах.

Фірма падрасла, на працу прынялі яшчэ чатырох чалавек. У 1969 годзе Rocket Chemical змяніла назву на WD-40 у гонар свайго адзінага на той момант прадукта. З'явіліся і новыя прэпараты. На сёння універсальнасць прэпарата ацанілі ў 160 краінах. Толькі ў Злучаных Штатах штогод прадаецца 1 млн. балончыкаў WD-40.

Паводле Яўгена БЯЗЕКІ.

# Як правільна шукаць работу?

## Чаму вас не бяруць на работу?

**Вы шукаеце работу. Прычым не любую, а каб было цікава, ды і зарплата вышэйшая.**

Да таго ж у дыпломе ў вас адны выдатныя адзнакі, а ў галаве – мноства цікавых думак і ідэй, якія маглі б пайсці на карысць любой фірме ці прадпрыемству. Аднак вы сталі заўважаць, што пошук работы ператварыўся для вас у безнадзейна доўгі марафон. Кар'ерныя поспехі сваіх сяброў і знаёмых вы тлумачыце наяўнасцю выгадных знаёмстваў, "крутых" сваякоў ці звычайным вязеннем.

Значыць, фартуна ўсміхаецца ўсім, толькі не вам. А можа, вы робіце штосьці не так? І сітуацыю гэту можна выправіць?

Як "правільна" ўладкавацца на работу? Што ў час гутаркі казаць працадаўцу? Якія якасці паднесці, а аб якіх лепш памаўчаць?



Любое працаўладкаванне пачынаецца з гутаркі. І кандыдат, і той, хто праводзіць яе, ставяць свае мэты і задачы. Задача інтэрв'юера – высветліць, хто з кандыдатаў больш за ўсё падыходзіць. У кандыдата двайная задача: быць выбраным і пераканаць працадаўцу, што ён – менавіта той супрацоўнік, у якім мае патрэбу арганізацыя ці фірма.

Фота Delta-mm.

## Такіх не бяруць

**Як сцвярджаюць эксперты, працадаўца інстыктыўна прымае рашэнне аб тым, ці браць навічка на работу, у першыя 5 хвілін гутаркі.**

Аднак спецыялісты кадравых агенцтваў склалі абагульненыя праекты некалькіх тыпаў людзей, якіх ніводны шэф не возьме на работу. Падумайце, можа, і вы выпадкова (ці не выпадкова) апынуліся ў якой-небудзь з пералічаных ніжэй катэгорый людзей.

**Хранічны буркун**: ён неяк умудрыўся ўладкавацца на работу, што яго зусім не радуе. Ён пастаянна незадаволены калегамі і начальствам, усім, акрамя сябе любімага. На пытанне, чаму ён хоча змяніць работу, адказвае: "Мне проста не падабалася там працаваць".

**Непадрыхтаваны**: неадпаведнае адзенне, адсутнасць неабходных дакументаў – асноўныя прыкметы гэтага кандыдата. У гэтую катэгорыю трапляюць таксама тыя, хто прыходзіць на гутарку абсалютна непадрыхтаваным. Іх ключавая фраза, што яны гатовыя выконваць "любую работу".

**Несапраўдны прэтэндэнт на трон**: калі судзіць па рэзюмэ, ён – сама дасканаласць. Але на гутарцы не можа прывесці канкрэтных доказаў сваіх дасягненняў, пастаянна паўтарае фразу: "Кажу вам, што я ўжо гэта рабіў".

**Карабельны пацук**: як толькі на прадпрыемстве ці ў фірмы пачынаюцца непрыемнасці, ён тут жа шукае сабе новае месца работы. Як правіла, у такога кандыдата працадаўцы просяць расказаць, як ён вёў барацьбу за тое, каб пераадолець крызіс на рабоце.

**Найміт**: пойдзе на іншую работу, калі там яму заплацяць трохі болей. Яго асноўная рухаючая сіла – грошы, і ён працуе, пакуль яму плацяць.

## Як мага менш крытыкі начальства

**"Мой былы шэф – сапраўднае параджэнне пекла", — прыкладна так пачынае размову чацвертая частка тых, хто прыходзіць наймацца на работу.**

Яшчэ адзін распаўсюджаны варыянт: "Я, канешне, не падарунак. Акрамя таго, у дзяцінстве перанёс каклюш, а цяпер пакутую ад гіпертаніі". Такая катэгорыя аўтаматычна пераходзіць ў пажыццёва "чорны" спіс. Астатнія спрабуюць весці размову, але звычайна спатыкаюцца на другім пытані тыпу: "Чаму вы прыйшлі менавіта да нас?" (па-мойму, гэта любімая "фішка" працадаўцаў). Гэта няхітрае пытанне прыводзіць большасць прэтэндэнтаў амаль да страты прытомнасці. Чаго яны толькі не адказваюць: "Проста так", "Больш нікуды не магу ўладкавацца", "Мне б любую работу знайсці" і г.д. А між іншым псіхолагі сцвярджаюць, што ў падобных сітуацыях трэба весці сябе зусім па-іншаму...

## Хто сабе цаны не ведае, той заўжды прадзешавіць

**Якіх жа правілаў трэба прытрымлівацца, калі накіроўваецеся да працадаўцы?**

Падрыхтоўку да гутаркі пажадана пачынаць са збору інфармацыі аб дзейнасці той фірмы ці прадпрыемства, куды вы збіраецеся ўладкавацца. Гэта можна зрабіць па-рознаму: пазнаёміцца з прадукцыяй ці паслугамі, вывучыць рэкламныя праекты і брашуры, калі ўдаецца, пагутарыць з чалавекам, які працуе ці працаваў на гэтым прадпрыемстве. Выснова: дабывайце інфармацыю з любых даступных крыніц.

Сабраўшы звесткі аб месцы працы і вакансіі, вы павінны крытычным вокам глянуць на сябе. Ваша задача – знутры пераканацца, што вы сапраўды хочаце працаваць у гэтай арганізацыі, і ёй патрэбны менавіта такія супрацоўнікі.

Некаторыя людзі адчуваюць страх перад размовай з працадаўцам, хочуць ісці на гутарку ў суправаджэнні родных ці знаёмых. І тут справа даходзіць да анекдотаў. Напрыклад, гіперактыўная жонка прыводзіць мужа-небараку. У выніку за паўгадзіны размовы муж сказаў толькі 2-3 словы, і яго выраз твару нагадваў словы князя Ігара: "О дайце, дайце мне свободу!..", затое яго другая палавіна з бляскам дэманстравала свой слоўнікавы запас. Вядома, што такая падтрымка не на карысць кандыдату-маўчуну.

Выснова: калі вы адчуваеце сябе ніякавата перад паходам на субяседаванне, пастарайцеся атрымаць папярэднюю інфармацыю па тэлефоне. У гэтым выпадку дзіцячы вершык "Мы з Тамарай ходзім парай" лепш забыць, а разлічваць на ўласныя веды і інтуіцыю.

Першае і самае банальнае – знешні выгляд чалавека. На жаль, уладкоўвацца на працу часта "забягаюць" жанчыны з нагружанымі сумкамі і пакетамі. Мілыя захавальніцы дамашняга ачага, не варта псаваць аб сабе ўражанне, не трэба сумяшчаць візіт да працадаўцы з паходам па магазінах. Тое ж самае тычыцца і моцнай паловы (не трэба мыць аўтамабіль).

Выснова: перад гутаркай паклапаціцеся аб акуратным знешнім выглядзе (не забудзьцеся вымыць галаву, надзець шкарпэткі... Наогул, прывядзіце сябе ў парадак). Не дапушчальна прыйсці ў спартыўным касцюме ці шортах. Бо ў такім выпадку аб добрым месцы працы трэба забыць.

## Крыху пра сябе

**Якія пытанні звычайна задаюць людзі, што даюць нам работу? Як правіла, спачатку вам прыйдзецца расказаць некалькі слоў пра сябе.**

Тут трэба сказаць пра вашу адукацыю і вопыт работы. Пры гэтым пастарайцеся падкрэсліць, што вы добры спецыяліст.

**"Чаму мы павінны ўзяць вас на работу?** — гэта пытанне як бы падштурхоўвае да пералічэння вашых уласных заслуг. Не забудзьце па магчымасці падмацаваць вашы словы прыкладамі. Але надта гаваркім таксама не трэба быць, бо ваш субяседнік пачне сумнявацца ў пачутым.

**"Чаму вы пайшлі з ранейшага месца працы?"** – пачуўшы такую фразу, не варта казаць пра канфлікт з вашым ранейшым босам, нават калі ён і быў. Ніколі не крытыкуйце сваё папярэдняе начальства. Лепш прывядзіце прычыну тыпу "мне прапанавалі больш цікавую (з вышэйшым заробкам) працу".

**"Ці атрымлівалі вы іншыя прапановы наконт работы?"**. Калі атрымлівалі, так і скажыце аб гэтым, што толькі павысіць вашы шансы. Вядома, не забудзьце дадаць, што гэта работа цікавіць нашмат больш.

**"На якую аплату вы разлічваеце?"** – гэтыя словы прымушаюць чырванець мноства шукальнікаў работы. Лепш паспрабаваць ухіліцца ад адказу, сказаць, што зарплату не варта абмяркоўваць у першую чаргу. Калі ўсё ж такі настойваюць, паспрабуйце высветліць, колькі фірма можа вам прапанаваць, і называйце суму, якая трохі ніжэйшая за сярэднюю.

**"Якія вашы самыя буйныя дасягненні?"** – спытае вас працадаўца. Для гэтага пажадана дома скласці спіс вашых поспехаў і дасягненняў за апошнія некалькі гадоў.

У канцы вашага дыялога працадаўца можа паведаміць вам, што вы не адпавядаеце дадзенай пасадзе. Не адчайвайцеся адразу. Можа, інтэрв'юер хацеў паглядзець, як вы адрэагуеце на крытыку. У такім выпадку да месца будуць наступныя словы: "Я сапраўды расчараваны(а). Я ж рыхтаваўся(лася), і гэта работа мяне зацікавіла. Яшчэ раз скажу: я ўпэўнены(а), што вам падыходжу". Галоўнае, валодаць сабой.

Памятайце, вашы адказы павінны быць прамымі і дакладнымі, г.зн., не выходзіць за рамкі тэмы. Гэта не азначае, што вы павінны толькі гаварыць "так" ці "не". Лепш падумайце перад тым, як адказаць.

**І ў заключэнне яшчэ адна парада ад вопытнай амерыканскай журналісткі Дыяны Берк: "Існуюць адказы, якія паўтараюцца мільёны разоў, напрыклад: "Я вельмі таварыскі" ці "Мне можна даручыць любую справу". Нават гэтыя сцвярджэнні справядлівыя ў вашым выпадку, паспрабуйце іх сфармуляваць інакш, пазбягаючы штампаў. Гэта аказвае спрыяльнае ўражанне".**

## На практыцы

**Я звярнулася да смаргонскіх працадаўцаў з пытаннем, якія фактары для іх вызначальныя пры найме прэтэндэнтаў на вакансіі.**

**Валянціна Картановіч, дырэктар Смаргонскай школы-інтэрната:**

— У апошні час наконт вакансій у мяне пытаецца шмат людзей. У гутарцы з кандыдатам перш за ўсё звяртаю ўвагу на прафесіяналізм чалавека: яго адукацыю, папярэдні вопыт. Радуе, калі чалавек прыходзіць да мяне на гутарку падрыхтаваным: можа даць рэкамендацыю, расказаць, якімі прафесійнымі навыкамі валодае, у чым бачыць для сябе перспектывы ў кар'ернай дзейнасці.

Але, як правіла, прэтэндэнты гаварыць саромеюцца і адгаворкай служаць словы "Я згодны на любую работу". Па праўдзе кажучы, такіх слоў часам бывае недастаткова, каб даць чалавеку працоўнае месца. Паколькі Смаргонь – горад маленькі, наводзіць даведкі пра некаторых прэтэндэнтаў даводзіцца самой. Бывае і зваротная сітуацыя, калі кандыдат надта пераканана гаворыць аб сваім прафесіяналізме, тады закрадваецца сумненне, ці так гэта на самой справе. Ідэальным варыянтам у такой сітуацыі з'яўляецца магчымасць папрацаваць з выпрабавальным тэрмінам, калі можна на практыцы праверыць, на што хто здольны. Яшчэ звяртаю ўвагу на яго камунікабельнасць і знешні выгляд.

**Аляксей Аношка, дырэктар Смаргонскага агрэгатнага завода:**

— Калі я бяру чалавека на работу, то ў першую чаргу пытаюся аб адукацыі. Пры гэтым звяртаю ўвагу не толькі на дыплом, а і на дадатак да яго.

Калі чалавек закончыў навучальную ўстанову з добрымі адзнакамі, гэта гаворыць аб яго разумовым патэнцыяле, а таксама аб працалюбстве. Таксама мне цікава паглядзець працоўную кніжку кандыдата – як часта ён мяняў месца работы, пры гэтым высвятляю, што паслужыла таму прычынай, і колькі гадоў складае яго працоўны стаж. Гэта самае галоўнае. Са сцвярджэннем, што першае ўражанне аб чалавеку бывае самым праўдзівым, не згодны. Некаторыя людзі падчас гутаркі хвалююцца, затое ў далейшым на практыцы паказваюць сябе добрымі спецыялістамі.

**Сяргей Залескі, прадпрымальнік, гаспадар салона "Вольга":**

— Вызначальным фактарам для мяне з'яўляецца высокі ўзровень прафесіяналізму. Затым заўжды даю кандыдату выпрабавальны тэрмін.

Лічу, што ён патрэбны ўсім прэтэндэнтам. Паколькі бізнэс у сферы паслуг трымаецца на ўменні працаваць з кліентам, вельмі важна быць камунікабельным, добразычлівым і акуратным. Пры прыёме на работу бяру на ўвагу і сваю інтуіцыю. Вельмі важна ўбачыць у вачах іскрачку, якая табе сапраўды падкажа, што работу чалавек будзе выконваць з жаданнем.

**На работу ўладкоўвалася Ірына ЛУГІНА.**

■ СТАРЫ АЛЬБОМ

# «Звышсакрэтная аперацыя»

Ішоў сакавік 1951 года. У дварышча Вілейскай міліцыі з аўтаматамі і сабакамі пракрочылі "байцы нябачнага фронту". Тыдні 2-3 яны рыхтавалі "звышсакрэтную аперацыю". Распрацоўвалі маршруты, графікі...

— 1 красавіка нашу хату ў Ілішчавічах акружылі салдаты ў блакітных фуражках і міліцыянеры, — расказвае з успамінаў бацькі **Уладзімір Кавалёнак**, майстар вытворчага навучання Вілейскага дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага каледжа. – Немаведама чаго шукалі: перавярнулі ўсё ўверх дном. Зрабілі вопіс маёмасці. Дзве каровы, свіней, курэй, збожжа, бульбу, сена, салому, хатнія рэчы забралі ў калгас. Арыштавалі майго бацьку Міколу, маці Васіліну, 5-гадовага брата Івана і 70-гадовую бабулю Марыю. Схапілі і нашых суседзяў Вазнякоў. З сабой нічога браць не дазволілі. І ўсіх, як стой, — у Вілейку ды ў цялятнікі. Папёрлі ў Сібір...

А цяпер пазнаёмімся з ахвярамі гэтага "першакрасавіцкага хапуна".

**Мікалай Кавалёнак** і яго сусед **Фёдар Вазняк** у 1934-1936 гадах адбывалі ў Варшаве тэрміновую службу ў Войску Польскім. Калі ж 1 верасня 1939 года Германія напала на Польшчу, іх прызвалі на фронт. Пасля 17 верасня чырвонаармейцы пад Сувалкамі іх захапілі ў палон, хоць супраць СССР Польшча не ваявала. Іх, грамадзян БССР, незаконна вывезлі ў шахты Растоўскай вобласці, дзе ім давялося больш за два гады глытаць вугальны пыл. Толькі ў снежні 1941 года, калі Савецкая армія амаль дасягнула Масквы, прыйшло доўгачаканае вызваленне і дазвол уступіць у Польскую армію генерала Андэрса.

Уладзімір Кавалёнак ад бацькі чуў такі ўспамін:

— Ваявалі мы ў пяхоце. Прайшлі баявы шматтысячакіламетровы шлях у радах Арміі Андэрса праз Іран, Ірак, Сірыю, Палесціну, Егіпет... Вызвалялі ад немцаў Італію, удзельнічалі ў крывавай бітве пад Монтэ-Касіна. Але больш за ўсё ганаруся тым, што мне даверылі быць у ахове ўдзельнікаў Тэгеранскай канферэнцыі. Рузвельта і Чэрчыля бачыў некалькі разоў. Быў двойчы паранены, кантужаны. Пасля вайны перавезлі ў Англію. Прапанавалі і грамадзянства, і жыллё, і працу.



На лесанарыхтоўках у Іркуцкай вобласці сасланыя нашыя землякі Часновіч, Мікалай Кавалёнак, Янкоўскі, Стах (стаяць), Крупскі, Емяльян, Якуб Капцюг.

Фота з альбома Міколы КАВАЛЁНКА.

Але некаторыя беларусы ў лютым 1946 года падаліся на Радзіму, хоць англійскія афіцэры і папярэджвалі, што дома іх могуць зняволіць. Ім жа здавалася такое немагчымым, бо ваявалі яны супраць агульнага ворага саюзнікаў – фашысцкай Германіі.

Непрыемнасці пачаліся ўжо на Брэсцкім вакзале:

— Зніміце ўзнагароды: яны вам тут не спатрэбяцца, — смалой прычапіліся да іх мытнікі.

А праз 5 гадоў – арышт і высылка ў Сібір.

Выгрузілі зняволеных віляйчан у сяле Ягат Іркуцкай вобласці. У барак панапіхалі чалавек 60. Давялося рваць жылы на лесапавале.

Як у ваду глядзелі англічане: знал-ведалі звычкі нашых "блакітнафуражачнікаў" – верных берыяўцаў.

Заўважыў Мікола Кавалёнак, што ў сібіракоў – печкі з жалезных бочак. Навучыў ён іх рабіць цэглу ды клаў ім цудоўныя печы. Затым збудавалі беларусы дыхтоўныя дамы і перасяліліся ў іх з халодных і няўтульных баракаў.

Варта зазначыць, што неслі цяжкі крыж няволі разам з ілішчаўцамі **Аляксей Мікуліч** і **Васіль Ракецкі** з Рабуні, **Аляксандр Паўловіч** з Тураўшчыны... Згодна з дадзенымі кнігі "Памяць", у той дзень было арыштавана і вывезена з Вілейшчыны 18 сем'яў былых андэрсаўцаў – 69 чалавек, а з Беларусі – больш за 800! Цэлы эшалон... Толькі ў сакавіку 1958 года яны вярнуліся на радзіму.

Чакаць перамогі справядлівасці ім давялося 42 гады. Вярхоўны суд незалежнай Беларусі рэабілітаваў іх у лютым 1993 года. Але Уладзіміру Кавалёнку, які нарадзіўся ў ссылцы, нічога не вярнулі з канфіскаванай маёмасці бацькоў. З асабовай справы незразумела, як знік той самы вопіс адабранай маёмасці.

**Аляксандр НАРКЕВІЧ.**

# Улады змяняліся – жыццё працягвалася

**Якія б змены ні адбываліся, жыццё ідзе сваім шляхам: людзі сустракаюцца, кахаюць, ствараюць сям'ю. У царкоўнай бібліятэцы пры вілейскай Свята-Марыінінскай царкве ёсць "Кніга шлюбных вобыскаў". Вынікам знаёмства з кнігай стаў сціслы агляд гэтак званай "гісторыі паўсядзённасці" за 1939-1947 гады.**

Агляд закранае ўзроставыя і рэлігійныя аспекты жыхароў, што належалі да прыходу гэтай царквы, і цікавыя акалічнасці моўнай палітыкі ў жыцці краю.

Прамежак часу з 1939 па 1947 год быў надзвычай багатым на падзеі. За невялікі тэрмін змяніўся шэраг уладаў і ідэалогій. Наша зямля была то "пад Польшчай", то "пад першымі саветамі", то "пад немцамі", а ўрэшце зноўку "пад другімі саветамі". Змены адбываліся хуткія, часам трагічныя, але жыццё не стаяла на месцы – маладыя бралі шлюбы.

Так, у 1939 годзе было зарэгістравана 28 шлюбаў. Прычым адзін з іх заключаўся 1 верасня 1939 года – першы дзень другой сусветнай вайны. Яшчэ адзін — 4-га, а пасля доўгі перапынак на 3 доўгія месяцы. Цікава, што, нават ведаючы аб пачатку вайны, людзі не адмянялі запланаваныя мерапрыемствы, бо загадзя рыхтавалі пачастунак, запрашалі гасцей, прызначалі час. Але пасля пачатку вайны доўга не ладзілі вяселляў, чакалі, што ж будзе далей. Палохала няпэўная будучыня.

У 1940 годзе ўжо усталявалася савецкая ўлада. У прыходзе зарэгістравана 15 шлюбаў. Змяншэнне лічбы на першы погляд гаворыць пра неахвоту моладзі жыць законнай сям'ёй, але гэта не так. Шлюбаў было не менш, проста атэізм новых гаспадароў вымушаў многія пары замацоўваць шлюб не ў царкве, а ў цывільнай ўстанове – ЗАГСе. У 1941 годзе адбыліся 23 вянчанні, прычым больш з іх – у другой палове году, калі край быў пад нямецкай уладай. Як вядома, акупацыйная адміністрацыя не рабіла ўціску на праваслаўную царкву. Больш таго, яна фактычна прымушала людзей вянчацца ў цэрквах, а тых, хто адмаўляўся, лічыла за камуністаў ці яўрэяў.

У гэтых умовах ваенныя 1942, 1943, 1944 гады характарызуюцца прыкладна аднолькавай колькасцю шлюбаў – 25, 20, 22 адпаведна. Нягледзячы на вайну і эканамічныя цяжкасці, людзі стваралі сем'і.

Толькі 7 шлюбамі вылучаецца 1945 год. Калі ж разглядзець сітуацыю больш уважліва, можна назваць як мінімум дзве прычыны, па якіх колькасць стала настолькі малой. Першая заключалася ў наступленні Чырвонага войска і цяжкіх абаронных баях Вермахта ў Еўропе, што вымагала дадатковай мабілізацыі салдат з вызваленых тэрыторый – адсюль скарачэнне мужчынскага насельніцтва. Другая – чарговы паварот да атэізму і адмова (забарона) ад асвячэння гэтай падзеі ў бажніцы.

У 1946 і 1947 гадах ізноў адбылося павелічэнне шлюбаў – 33 і 31. Гэтаму паспрыяла дэмабілізацыя і пэўны маральны ўздым у савецкім грамадстве, што панаваў пасля перамогі. У людзей з'явілася надзея на лепшае.

**Узроставыя дадзеныя маладых:**

| Год | Сярэдні ўзрост: Мужчыны | Сярэдні ўзрост: Жанчыны |
|---|---|---|
| 1939 | 27,3 | 23,4 |
| 1940 | 24,3 | 23,7 |
| 1941 | 28,9 | 23,9 |
| 1942 | 27,4 | 21,0 |
| 1943 | 25,5 | 22,5 |
| 1944 | 28,1 | 23,0 |
| 1945 | – | – |
| 1946 | 30,5 | 24,8 |
| 1947 | 29,7 | 26,5 |

Як бачна, на працягу 1939-1944 гадоў сярэдні ўзрост жанчын заставаўся амаль нязменны – 22-23 гады. Мужчынскі вагаўся ад 24 да 28, але пераважна быў таксама даволі роўны.

Асобна стаяць пасляваенныя гады, 1946 і 1947, калі ўзрост як жанчын, так і мужчын, што бралі шлюб, быў большы. Звязана гэта з тым, што многія хлопцы былі на фронце ці ў партызанах, і дзеўкі чакалі іх вяртання дахаты.

За азначаны прамежак часу было 5 выпадкаў, калі шлюб рэгістраваўся паміж прадстаўнікамі розных канфесій – між праваслаўнай і каталіцкай. Пры гэтым ва ўсіх выпадках каталіком быў мужчына, а жанчына – праваслаўнай. Значыць, муж пагаджаўся з больш актыўнай у рэлігійным плане жонкай і часам паступаўся сваімі перакананнямі. Так бывае і цяпер.

Часцей за ўсё пары былі з аднаго населенага пункта ці з суседніх вёсак. Большасць пар была з самой Вілейкі (112), Баранцаў (53), Асіпавічаў (52), Порсы (24), Халапоў, Каловічаў, Більцавічаў, Жаўткоў, Жарсцвянкі, Смярдзеі, Ольшына, Руччавых, Глінната. Зрэдку маладыя жылі далёка адзін ад аднаго: вілейскія бралі ці ішлі за смаргонскіх, маладзечанскіх, хадасаўскіх (Ільянскай воласці), шалкаўшчынскіх (Хаценчыцкай).

На падставе "Кнігі шлюбных вобыскаў" можна прасачыць гісторыю з'яўлення новых прозвішчаў на Вілейшчыне. Сярод распаўсюджаных мясцовых прозвішчаў былі карэнныя: Субач (узгадваецца 43 разы), Валынец (18), Альфер (13), Карыцька (10), Капцюг (9), Пагуда (7), Сыракваш (6), Ількевіч (5) і іншыя. Нашчадкі іх і цяпер жывуць на нашай зямлі. У час другой сусветнай вайны з'явіліся прышлыя, рускія па паходжанні асобы. У Свята-Марыінінскай царкве зарэгістравана ў 1943-1944 гадах 4 шлюбы рускіх мужчын з Кіраўскай, Пензенскай абласцей і горада Самары, якія бралі ў жонкі беларусак з нашага краю. Пры гэтым жанчыны былі на 5-7 год старэйшыя за мужчын (удовы ці адзінокія). Фактычна яны прымалі гэтых хлопцаў (палонных або акружэнцаў), якія аказваліся адарванымі ад сваіх блізкіх і родных. Здаралося ў той час шлюбы мужчын 40-60 год з жанчынамі 20-40. Адзначым, што ва ўсіх выпадках разводы былі адзінкавыя.

Калі казаць пра мову, на якой запаўнялася кніга, можна зрабіць пэўныя назіранні і высновы. У 1939 годзе запісы пераважна ідуць па-польску і па-расейску. У 1940-м і ў пачатку 1941 года пануе расейская мова. У ваенны час пераважае беларуская мова ў справаводстве, хаця сустракаюцца польскія і рускамоўныя запісы. З 1945 году зноў суцэльная расейская мова. Як ні сумна адзначыць, але для беларускай мовы месца знайшлося толькі пры немцах...

**Мікалай і Усевалад СЦЕБУРАКІ, г. Вілейка.**

■ КАЛЯНДАР

**2 красавіка. 100 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Акуліча (1904-1972)**, беларускага кінааператара, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**2 красавіка. 70 гадоў з дня нараджэння (1934) Юрыя Зуева**, беларускага жывапісца.

**4 красавіка. 95 гадоў з дня нараджэння Галіны Ізергінай (1909-1954)**, беларускага жывапісца.

**4 красавіка. 75 гадоў з дня нараджэння (1929) Вячаслава Марозава**, беларускага пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі.

**5 красавіка. 95 гадоў з дня нараджэння Лазара Рана (1909-1989)**, беларускага графіка, жывапісца.

**5 красавіка. 60 гадоў з дня нараджэння Сяргея Кліменкі (1944-2001)**, беларускага акцёра, рэжысёра.

**5 красавіка. 60 гадоў з дня нараджэння (1944) Таццяны Логінавай**, беларускага кінааператара.

**6 красавіка. 100 гадоў з дня нараджэння Міколы Хведаровіча (1904-1981)**, беларускага паэта.

**7 красавіка. 75 гадоў назад, 7 красавіка 1929 года, у Вілейцы нарадзіўся Леанід Аўдзей – доктар-хірург**, скончыў Мінскі медыцынскі інстытут, доктар медыцынскіх навук, прафесар. У 1970-1977 гадах – загадчык 2-й кафедры шпітальнай хірургіі МДМІ, у 1968-1977 гадах – галоўны хірург Міністэрства аховы здароўя БССР, аўтар каля 150 навуковых публікацый, старшыня Беларускага навуковага таварыства хірургаў.

■ ФУТБОЛ, СТАТЫСТЫКА

# Новы клуб «снайпераў»

**Новы клуб беларускіх футбольных бамбардзіраў, якія забілі не менш за 100 мячоў, адкрыла газета "Прэсбол".**

Стары клуб, у залік якога ішлі галы, забітыя толькі ў складзе айчынных каманд, страціў актуальнасць, бо ўсе лепшыя нашы гульцы выступаюць у замежных чэмпіянатах.

Новы клуб залічвае галы ў чэмпіянатах мацнейшых ліг любой краіны, у кубкавых матчах любой краіны, у еўракубкавых матчах, у матчах за маладзёжную, алімпійскую і нацыянальную зборныя Беларусі.

Пакуль ганаровую лічбу пераадолелі шасць снайпераў. Тройку лепшых утвараюць **Валерый Стрыпейкіс** з "Нафтана" (135), настаўнік віцябчан **Георгій Кандрацьеў** (134), які закончыў кар'еру, і **Валянцін Бялькевіч** з кіеўскага "Дынама" (131).

Кандрацьеў 6 сваіх галоў (5 у чэмпіянаце + 1 у Кубку) правёў у складзе маладзечанскага "Металурга" ў 1992 годзе. Кандыдатамі на ўваход у клуб з'яўляюцца выхаванцы маладзечанскай ДЮСШ-2 **Аляксандр Вяжэвіч** і **Уладзімір Макоўскі**.

Макоўскі цяпер мае 82 галы і сёлета ў складзе "Тарпеда-СКА" можа зрабіць рашучы крок да сотні. Ён выступаўся ў чэмпіянаце 11 разоў у складзе "Маладзечна" ў 1994-95 гадах. Яшчэ забіў у складзе мінскага "Дынама" – 49 (40+6 плюс 3 у еўракубках), за украінскія каманды – 14 (7+7), за маладзёжную і нацыянальную зборныя – па 4.

Вяжэвіч спыніўся на лічбе 90. У складзе маладзечанскага клуба ў 1992-94 і 1996 гадах забіў 46 разоў (40+6). Яго агульныя паказчыкі: у Беларусі – 82 (72+10), у замежжы (Кіпр і Расія) – 8 (6+2).

На жаль, у залік клуба не пайшлі галы Вяжэвіча, забітыя да суверэннай пары. Гэта, між іншым, 9 мячоў у Кубку СССР сярод КФК 1991 года і пераможныя мячы ў фіналах Кубкаў БССР 1990 і 1991 гадоў, не кажучы ўжо, што ён быў лепшым снайперам (28 мячоў) чэмпіянату БССР 1991 года.

Аляксандр летась амаль закончыў кар'еру, аднак сёлета рыхтуецца да сезона ў першай лізе з "Маладзечнам-2000". Шанс папоўніць свой рахунак ён атрымае ў кубкавых матчах, якіх сёлета будзе як мінімум – адзін, а як максімум – тры.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**



**Аляксандр Вяжэвіч – лепшы бамбардзір маладзечанскага футбола за ўсе часы.**

## Спартыўныя школы рэгіёну і віды спорту, якія ў іх развіваюцца

| | | |
|---|---|---|
| **Астравецкі раён** | ДЮСШ аддзела адукацыі | Бокс, лёгкая атлетыка |
| **Ашмянскі раён** | ДЮСШ аддзела адукацыі | Гандбол, лёгкая атлетыка |
| **Валожынскі раён** | ДЮСШ аддзела адукацыі | Баскетбол, лёгкая атлетыка, футбол (хлопцы). |
| **Вілейскі раён** | ДЮСШ аддзела ФКСіТ | Акрабатыка, баскетбол, скачкі на батуце |
| | КДЮСШ прафсаюзаў | Веславанне акадэмічнае, веславанне на байдарках і каноэ |
| **Маладзечна** | ДЮСШ№1 аддзела адукацыі | Лёгкая атлетыка (на правах СДЮШАР), баскетбол, валейбол, футбол (дзяўчаты). |
| | ДЮСШ№2 аддзела адукацыі | Футбол (хлопцы) |
| | ДЮСШ аддзела ФКСіТ | Барацьба грэка-рымская, бокс, веласпорт, лыжны спорт, настольны тэніс |
| | КДЮСШ прафсаюзаў | Гарадошны спорт, гімнастыка спартыўная (дзяўчаты), плаванне |
| | Абласная МАКСДЮШАР | Дзюдо (аддзяленне) |
| **Маладзечанскі раён** | ДЮСШ аддзела ФКСіТ | Барацьба грэка-рымская, конны спорт, плаванне |
| **Мядзельскі раён** | ДЮСШ аддзела ФКСіТ | Веславанне на байдарках і каноэ, лыжны спорт |
| **Смаргонскі раён** | СДЮШАР№1 аддзела адукацыі | Барацьба дзюдо, барацьба самба, баскетбол, лёгкая атлетыка, цяжкая атлетыка |
| | ДЮСШ№2 аддзела адукацыі | Футбол (хлопцы) |

■ АНАЛІЗ

# Багатая палітра

Названыя віды спорту – далёка не ўсё, чым ёсць магчымасць займацца ў нашым рэгіёне. У некаторых спартыўных школах ёсць групы агульнафізічнай падрыхтоўкі, у якіх дзеці атрымліваюць базавыя веды адначасова па некалькіх дысцыплінах. У Маладзечанскім раёне ёсць нават асобная ДЮСШАФП прафсаюзаў, а таксама ДЮКФП (клуб) аддзела адукацыі. Да таго ж, у рэгіёне існуюць клубы па асобных відах спорту.

Як бачна з пераліку, найбольш папулярным відам з'яўляецца лёгкая атлетыка. Менавіта яе прадстаўнікі дабіваліся найбольш гучных поспехаў на міжнароднай арэне, аб чым сведчыць прэстыжны статус СДЮШАР, які атрымалі смаргонцы і маладзечанцы.

У двух раёнах і Маладзечне хлопцаў прафесійна вучаць гуляць у футбол – адзіны від, па якім функцыянуюць асобныя школы (у тых жа Маладзечне і Смаргоні). Такім чынам, у рэгіёне і каралева спорту – лёгкая атлетыка, і кароль спорту – футбол адпавядаюць сваім гучным тытулам.

У чатырох школах навучаюць баскетболу. У іншых мясцінах Беларусі ён не так шырока распаўсюджаны. Наш рэгіён адметны ў плане развіцця гэтага віду спорту.

Прысутнічаюць у рэгіёне і досыць рэдкія віды. Напрыклад, акрабатыка і скачкі на батуце ў Вілейцы, гарадошны спорт і конны спорт на Маладзечаншчыне.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ КАРАТЭ

## Прызёры першынства

**МАЛАДЗЕЧНА. Чэмпіянат і адкрытае першынство Мінска па каратэ прайшло 20-21 сакавіка.**

Спаборніцтвы праходзілі адначасова на 2 пляцоўках па правілах WKF, якія падтрымлівае нацыянальны алімпійскі камітэт. Лепшых спартсменаў вызначалі ў двух раздзелах: ката (паказальнае выступленне аднаго спартсмена) і кумітэ (паядынак).

Ад Маладзечна ўдзельнічалі 8 спартсменаў з клуба «Сакура». Чацвёра з іх сталі прызёрамі. **Максім Вяль** (у вагавай катэгорыі больш за 45 кілаграмаў; СШ №1), **Дамітрый Стрэж** (да 60 кілаграмаў; політэхнічны каледж), **Анжаліка Тону** (да 45 кілаграмаў; СШ №3), **Іван Міхнёў** (больш за 40 кілаграмаў; СШ №8) занялі трэція месцы ў сваіх узроставых групах.

Цяпер спартсмены рыхтуюцца да міжнароднага турніру ў Таліне. Грошы на паездку іх бацькі шукаюць самі.

**Святлана ЦІШКО.**

■ ФУТБОЛ, МІЖСЕЗОННЕ

## Праводзяцца турніры

**"Смаргонь" адправілася на турнір у Гродна, дзе з 1 красавіка сабраліся прадстаўнікі вобласці.**

На прагляд у каманду прыехалі гульцы, якія амаль усю кар'еру правялі ў клубах вышэйшай лігі: варатар **Віталь Варывончык** (1972), які нават за зборную выступаў, і абаронца **Віктар Маляўка** (1976). Летась Варывончык гуляў у "Белшыне" (23 матчы), а Маляўка – у "Маладзечна-2000" (10 матчаў), і ў другім крузе ён дапамог МТЗ-РІПА (8 матчаў) выйсці ў вышэйшую лігу.

"Маладзечна-2000" правяло кантрольны матч з прадстаўніком вышэйшай лігі мінскай "Зоркай-ВА-БДУ" 27 сакавіка ў Заскавічах. Саступілі 0:2, прапусціўшы галы ў сярэдзіне першага тайма.

У Маладзечне на полі СШ№5 з 2 па 4 красавіка праходзіць турнір чатырох калектываў. Акрамя гаспадароў, гэта "Дынама-Юні" (Мінск), "Змена" (Мінск; ДЗ), а яшчэ адзін удзельнік на момант падрыхтоўкі матэрыялу быў невядомы.

На прагляде знаходзяцца абаронцы **Віталь Бычкоўскі** (1981) і **Георгій Савіцкі** (1980).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ БАСКЕТБОЛ, ДБЛ

## Першае месца ў дзяўчат 1989 г.н.

**СМАРГОНЬ. Выхаванкі СДЮШАР пад кіраўніцтвам Жанны Грэхавай сталі мацнейшымі ў розыгрышы дзіцячай баскетбольнай лігі.**

27-28 сакавіка ў Мінску прайшлі матчы плэй-оф. У паўфінале нашы землячкі лёгка выйгралі ў сталічнага "Гарызонта" 68:35, а ў фінале зноў пераўзышлі гродзенак – 77:67. Самай выніковай у вырашальнай сустрэчы стала **Наталля Грышан** – 25 ачкоў.

Склад каманды: **Ганна Буцьянава** (1990), **Наталля Грышан, Анастасія Захараўская, Кацярына Кандраценка, Наталля Сулеўская** (асноўная пяцёрка), **Кацярына Аляксандрава, Наталля Каўбаснік, Вольга Клюкойць** (1990), **Анастасія Шульжыцкая**,

Абедаве (1989 г.н. і 1990 г.н.) хлапечыя каманды СДЮШАР па завяршэнні аднакругавога турніру не прабіліся ў мацнейшую чацвёрку, заняўшы пятыя месцы. Цяпер іх чакаюць матчы плэй-оф за 5-8 месцы.

Старэйшыя набралі аднолькавую колькасць ачкоў з чацвёртай камандай, але маюць горшую розніцу ачкоў. Малодшым жа не хапіла адной перамогі. На жаль, у адным з матчаў яны з-за судзейства саступілі 1 ачко.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Табло**

■ ФУТБОЛ, НАВІНЫ

**Юнацкая зборная краіны 1985 г.н. і меншых выйграла два кантрольныя матчы на Кіпры ў гаспадароў.**

Яна рыхтуецца да другога кваліфікацыйнага турніру, на якім у маі чатыры зборныя будуць аспрэчваць адзіную пуцёўку на чэмпіянат Еўропы. У склад выкліканы **Леанід Ковель** 1986 года нараджэння

23.03 – 1:0. Ковель не гуляў.

25.03 – 5:1. Ковель быў заменены на 75 хвіліне пры ліку 3:0.

■ АКРАБАТЫКА

**ВІЛЕЙКА. Першынство краіны сярод юнакоў прайшло ў Гомелі.**

Другія месцы занялі мужчынская пара і мужчынская чацвёрка.

Пара: **Яўген Чарнецкі** (1993), **Вадзім Чуковіч** (1987). Чацвёрка: **Уладзімір Белачуб** (1991), **Віктар Лапша, Вадзім Траццяк, Аляксандр Шыкавец** (усе – 1988).

Трэнеры: **Іван Мамай, Таццяна Літвіновіч.**

■ ПЛАВАННЕ

**МАЛАДЗЕЧНА. Дзяўчаты з КДЮСШ занялі многа прызавых месцаў на Алімпійскіх днях моладзі 1990-91 г.н., што прайшлі ў Наваполацку 24-28 сакавіка.**

**Анастасія Сушчэня** заваявала тры першыя месцы (50 м і 100 м брасам, 200 м комплексам). На дыстанцыі 200 м брасам яна ў папярэднім заплыве выканала нарматыў майстара спорту, а ў фінальным заплыве парушыла правілы.

**Алена Верамей** стала першай на 400 м комплексам, а таксама заняла два другія і тры трэція месцы.

**Кацярына Сушчэня** заняла два другія месцы, а **Вольга Уткіна** – адно другое месца.

Усе гэтыя дзяўчаты прадстаўлялі Мінскую вобласць і ў складзе комплекснай эстафеты 4 па 100 м і занялі другое месца. Эстафета 4 па 200 м вольным стылем прынесла трэцяе месца.

■ ГАНДБОЛ

**АШМЯНЫ. Прайшлі Алімпійскія дні моладзі 1987-88 г.н., у якіх выступалі зборныя абласцей.**

Дзяўчаты спаборнічалі ў Мінску 17-21 сакавіка. Каманда Гродзенскай вобласці заняла пятае месца. У складзе выступалі чатыры выхаванкі ДЮСШ: **Наталля Голуб, Ксенія Зарэцкая, Алена Рэзгіс, Ірына Трускоўская.** Лепшым гульцом турніру на пазіцыі лінейнага суддзі назвалі Трускоўскую.

Хлопцы высвятлялі адносіны 24-28-га ў Гомелі. Прадстаўнікі Гродзеншчыны сталі шостымі. З Ашмянаў былі **Аляксей Асмольскі, Аляксандр Пузына, Сяргей Харэвіч.**

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ АНОНС

**1-4 красавіка, Маладзечна.** Зала барацьбы па вуліцы Ясінскага. Трэці рэспубліканскі турнір па грэка-рымскай барацьбе на прызы чэмпіёна Еўропы Барыса Радкевіча. Удзельнічаюць не толькі беларускія каманды, але і з замежжа.

